


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 4 (650)
Красавік 2020 г.





**Віншуем нашых сяброў і прыхільнікаў са 102-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці**

**Беларускай Народнай Рэспублікі**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

## Гуканьне Вясны на беразе Гудзону ў штаце Нью-Ёрк

У суботу, 7 сакавіка, беларуская грамада Нью-Ёрку і ваколіцаў правяла традыцыйнае сьвяткаваньне – абрад Гуканьня Вясны, што звычайна праводзілі нашыя продкі напачатку сакавіка месяца. Абрад адбываўся ў Осынінгу ў маляўнічай мясьціне на беразе ракі Гудзон. Прыбываючых удзельнікаў імпрэзы вітаў на флагштоку бел-чырвона-белы нацыянальны беларускі сьцяг, поруч са сьцягам амэрыканскім. Надвор’е выдалася добрае, сонечнае, хоць і быў досыць моцны вецер.





У памешканьні лодачнага клюбу на беразе Гудзону ўдзельнікаў віталі гасьцінныя Лена і Пётр Рыжыя, што нагатавалі шмат розных страваў, у тым ліку нацыянальных беларускіх, для ўсіх жадаючых.

Затым пачалося традыцыйнае сьвяткаваньне Гуканьня Вясны, якое вяла сп-ня Валянціна Якімовіч, якая, дарэчы, нядаўна правяла Гуканьне Вясны ў Каліфорніі ў ваколіцах Сан-

*заканчэньне на бачыне 3*

# Антон АДАМОВІЧ — беларускі літаратар, гісторык і грамадзкі дзеяч

Адзін з найвыбітнейшых беларускіх літаратурных крытыкаў, празаік, публіцыст і нацыянальна-культурніцкі дзеяч Антон Адамовіч нарадзіўся ў 1909 годзе ў Менску ў сям'і шляхецкага паходжаньня. Змалку выхоўваўся айчымам, навучаўся ў гімназіі, а пасьля сямігадовай школе, якую скончыў у 1924 годзе. Ад часоў маленства ўсьведаміў сябе беларусам, і гэта шляхаводнай зоркай суправаджала яго праз усё жыцьцё.

Антон Адамовіч браў удзел у дзейнасьці Беларускай Хаткі – нацыянальна-культурнага асяродку, заснаванага Максімам Багдановічам і Зьмітраком Бядулем, і зачыненага бальшавікамі ў 1920 г. Нягледзячы на ўзрост, быў актыўным і цікаўным сьведкам гістарычных падзеяў 1917-1920 гг, абвешчаньня БНР, зьмены ўладаў у Менску. У школе разам зь сябруком Адамовіч заснаваў падпольную арганізацыю КРЫЮГ ("Крывіцкая Юнацкая Грамада"). Адамовіч быў самым маладым слухачом курсаў беларусаведы, якія вёў акадэмік Яўхім Карскі. Антона Адамовіча змалку вабіла мастацкае слова, беларуская літаратура, і 1920-я гады, падчас навучаньня ў Белпэдтэхнікуме, ён пачаў сваю літаратуразнаўчую дзейнасьць. Адамовіч пісаў пра творчасць сучасных яму беларускіх літаратараў, у тым ліку манаграфічны досьлед пра творчасьць Міхася Гарэцкага. Першым надрукаваным творам была рэцэнзія (1926) на зборнік паэзіі Валера Маракова "Пялёсткі". Падчас вучобы Адамовіч уваходзіў у літаб'яднаньне "Ўзвышша", уплываў на фармаваньне паглядаў у густаў беларускіх пісьменьнікаў, у духу нацыянальным і несавецкім. Скончыўшы ў 1928 годзе Белпэдтэхнікум, Адамовіч пачаў вучыцца ў Белдзяржунівэрсытэце. Працяглы час ён меў сяброўскія дачыненьні з нацыянальным дзеячам Вацлавам Ластоўскім і карыстаўся ягонай вялікай бібліятэкай. Сярод аднакурсьнікаў Адамовіч лічыўся эрудытам, "хадзячай энцыкляпэдыяй".

Па сьведчаньнях сучасьнікаў, ён актыўна абмяркоўваў тэмы нацыянальнага разьвіцьця беларускага грамадзтва, згортваньня беларусізацыі, падзеленасьці нацыі на палякаў і расейцаў. У выніку Адамовіч у ліпені 1930 году быў арыштаваны па справе "Саюзу Адраджэньня (пазьней: Вызваленьня) Беларусі".



Гэтая фіктыўная справа, усчатая супраць нацыянальнай эліты, дала пачатак сыстэмным рэпрэсіям у БССР. У 1931 г. Антон Адамовіч быў асуджаны на 5 год высылкі і высланы ў глыб Расеі ў горад Глазаў, а ў 1934 годзе пераведзены ў Вятку, дзе ён працаваў настаўнікам у сельгастэхнікуме і ў школах. У 1935 г. тэрмін высылкі яму быў працягнуты яшчэ на 2 гады. У 1938 годзе Адамовіч быў вызвалены і вярнуўся ў Менск. Там працаваў настаўнікам у сярэдняй школе і скончыў БДУ, атрымаўшы дыплём у 1939 годзе.

Пачатак савецка-нямецкай вайны сустрэў у Менску, дзе зь ліпеня 1941 году Антон Адамовіч стаў адным з актыўных арганізатараў выданьня шэрагу беларускіх пэрыядычных выданьняў. Цьвёрда настаўлены супраць бальшавізму і ягонага ўціску ўсяго беларускага, Адамовіч зрабіў стаўку на немцаў як на мажлівасьць пашырэньня нацыянальнай асьветнай і прапагандная працы сярод беларускага жыхарства. У сувязі з гэтым Адамовіч узначаліў выдавецкі аддзел, створаны пры Менскай гарадзкой управе для арганізацыі выпуску газэтаў. Адначасна ён стаў галоўным рэдактарам краявога выдавецтва "Менск", працаваў у "Менскай (Беларускай) Газэце". Быў сябрам Галоўнай Рады Беларускай Народнай Самапомачы і выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы і прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусі. Кіраваў Беларускім Навуковым Таварыствам. Адамовіч стаў сябрам нелегальнай Беларускай Незалежніцкай Партыі. Антон Адамовіч у сваіх публікацыях праводзіў аналёгію блізкага канца акупантаў і заваёўнікаў, робячы прыхаваныя паралелі з Напалеонам, ухваляў перамогу пад Грунвальдам. Гэта не падабалася немцам, а таксама ягоную дзейнасьць лічылі шкоднай Саветы, што падрыхтавалі замах на ягонае жыцьцё.

У канцы 1943 году Адамовіч на патрабаваньне немцаў пераехаў у Нямеччыну, дзе працаваў у газэце "Раніца" (Бэрлін). Пасьля вайны ён застаўся ў Нямеччыне, хаваючыся ад савецкіх "рэпатрыятараў", падаваў сябе народжаным у Вільні. У лягерах для перамешчаных асобаў (ДП) выдаваў газэту "Ведамкі", затым далучыўся да выданьня газэты "Бацькаўшчына", альманахаў "Конадні" і "Сакавік". Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Стаў сябрам Рады БНР.

Антон Адамовіч напісаў рэцэнзіі на кнігі Натальлі Арсеньневай "Сягоньня" (1944), паэму Лявона Случаніна "Рагнеда" (1944), зборнік Алеся Салаўя "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" (1947) ды інш. Ён стаў аўтарам навуковых прадмоваў да эмігранцкіх выданьняў Уладзімера Дубоўкі ("Credo", 1949), Якуба Коласа ("Новая зямля", 1952), Уладзімера Жылкі ("Творы. Да 20-годзьдзя ўгодкаў сьмерці", 1953), Андрэя Мрыя ("Запіскі Самсона Самасуя", 1953), Лукаша Калюгі ("Нядоля Заблоцкіх", 1953), Янкі Купалы ("Раскіданае гняздо" і "Тутэйшыя", 1953), Міхася Кавыля ("Пад зорамі белымі", 1955), Янкі Юхнаўца ("Шорах моўкнасьці", 1955), Масея Сяднёва ("Ля ціхай брамы", 1955). Надрукаваў шэраг антыбальшавіцкіх рэфэратаў, артыкулаў, кніг – "Яны зноў на Беларускай зямлі" (1944), "Арыентацтва – хвароба беларуская" (1944), "Очерки истории большевизма в Белоруссии" (1954), "Саветызацыя беларускай літаратуры" (1955), "Пантэон пісьменьнікаў БССР" (1959). У газеце "Бацькаўшчына" апублікаваў манаграфію "Званар Адраджэння – Вацлаў Ластоўскі" (1954). Антон Адамовіч надру-

*заканчэньне на наступнай бачыне*

*заканчэньне з папярэдняй бачыны*

каваў свае празаічныя творы, у якія ўкладзена шмат душы й нацыянальнага пачуцьця: "Афрадыта ОСТ", "Каханы горад". Адамовіч стаў адным з заснавальнікаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНІМ).

У 1960 годзе Антон Адамовіч пераехаў у ЗША. У той самы час ён стаў адным з кіраўнікоў Беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Свабода". Адамовіч працягваў пісаць гісторыка-літаратурныя і крытычныя артыкулы: "Алесь Гарун: жыцьцё і творы" (1961), "Лірнік краіны ветлай (З успамінаў пра Міколу Равенскага)" (1961), "70-годзьдзе Максіма Гарэцкага" (1963), "Да пытаньня пра месца Францішка Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры" (1964—1965), "Да ўгодкаў Цёткі..." (1966), "Аспэкты творчасьці Натальлі Арсеньневай" (1971), "90 год Купалы й Коласа" (1972), "Успаміны – памяці Лявона Савёнка" (1974), "Успаміны пра Ўладзімера Дубоўку" (1976), "Натальля Арсеньнева" (1979) і шмат іншых. Вывучэньне творчай спадчыны Антона Адамовіча (каля 250 працаў па гісторыі, эканоміцы, культуры Беларусі, у тым ліку на ангельскай, нямецкай і расейскай мовах) яшчэ чакае свайго часу на Бацькаўшчыне.

Памёр Антон Адамовіч у 1998 годзе, пахаваны на Беларусіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Гуканьне Вясны ў штаце Нью-Ёрк

*заканчэньне з бачыны 1*

Францыска. На беразе Гудзону Валянціне Якімовіч дапамагалі праводзіць абрад сп-ні Лена Рыжая і Ганна Шарко. Як і кожны традыцыйны абрад, Гуканьне Вясны ў пэўным сэнсе ўяўляе сабою драматычную дзею, калі прысутныя водзяць карагоды, заклікаючы вясну сьпевамі: "Вясна, хадзі да двору! Нясі ключ з сабою, Зіму замыкаці, Вясну адмыкаці!" Зіма не здаецца адразу, і трэба дапамагчы вясьне пераборацьі перамагчы зіму. Сп-ня Ірына Хадарэнка абнесла-абдарыла ўсіх печывамі, выпрабленымі ў выглядзе малых птушачак. Дзеці ды ўсе прысутныя кідалі ўгару крупы, каб хутчэй прыляталі птушкі й прынеслі нам усім цяпло і сонца на сваіх крылах.

Пасярод карагоду паставілі ляльку, выяву ведзьмы Марэны, як сымболь зімы, холаду ды зла, каб ізаляваць яе і прагнаць, і каб разам зь ёю сыйшлі ўсе нашыя праблемы ды хутчэй запанавала вясна ды цёплыя дні. Удзельнікі клікалі вясну прыйсьці і прынесьці з сабою "цёплыя дзянёчкі, частыя дажджочкі, зялёную травіцу". У сьпевах-вясьнянках прысутнічае своеасаблівы прыпеў перагукваньне: "Гууу!", і пры ім грамада-загукальнікі уздымаюць рукі ўгару, узносячы іх у зваротце да Сусьвету. Адсюль сьвята і атрымала сваю назву – Гуканьне Вясны.

Загукальныя песьні й карагоды зьмяняліся вясёлымі гульнямі, з жартамі ды пацалункамі, што асабліва падабалася моладзі. Сёлета былі далучаныя дзьве новыя гульні, зьбіраньне раскіданых трэсак – для хлопцаў, і зьбіраньне раскіданых бульбінак – для дзяўчатаў. Хто назьбірае найбольш, той, адпаведна, першым у гэтым годзе ажэніцца ці выйдзе замуж. Затым была агульная фатасэсія на беразе ракі Гудзон і працяг імпрэзы ва ўтульнай залі лодачнага клюбу, дзе ўдзельнікі працягвалі падсілкоўвацца, танчылі, калегаваліся з сябрамі й заводзілі новыя знаёмствы. Некалькі чалавек "пасьвеньціліся", выкупаўшыся ў халодных водах Гудзону. Цудоўна, што гэткія імпрэзы як Гуканьне Вясны яднаюць нашых суродзічаў з розных мясьцінаў і розных асяродкаў Нью-Ёрку і цэлай Амэрыкі.

Сёлетняе сьвяткаваньне абраду Гуканьня Вясны адбывалася ў няпростых абставінах, у часе пашырэньня каронавірусу і адпаведнай панікі, зьвязанай з гэтым. Тым ня менш імпрэза сабрала каля сотні ўдзельнікаў, сярод іх былі людзі, прыехаўшыя з розных штатаў, шмат хто прывёз з сабою малых дзяцей. Спадзяемся, што імпрэза будзе мець толькі добрыя наступствы, і што сілы зімы, цемры, і вірусная навала будуць пераможаныя. Як сказала сп-ня Валянціна Якімовіч: "Загукалі мы вясну, і як ужо ні злуюцца холад і цемра, але хутка прыйдуць цёплыя веснавыя дзянёчкі, і лагодная ўрадлівая пара".

Асаблівая падзяка ў падрыхтоўцы і правядзеньні імпрэзы належыцца сп-ням Валянціне Якімовіч, Алене Рыжай, Ганьне Шарко і сп. Пятру Рыжаму і Аляксандру Мазгавому.

***Віталь ЗАЙКА***

*Фатаздымкі Сержа Трыгубовіча*



# “Галгатня пра ЗыШыА”

## All Hail the King

Каронавірус – гэта стары кансэрватар. Толькі ён змог за пару месяцаў зрабіць тое, што здавалася быць немагчымым. Ліквідаваць такія папяровыя імпэрыі як Эўрасаюз, паказаць на абсалютна нулявое значэньне Брусэля і ягоную поўную бездапаможнасьць па вырашэньню сур’ёзных праблемаў. Нават Амэрыка адізалявалася з агідаю. Зьнесенае свабоднае гойсаньне па замежжах. Вернутыя нацыянальныя межы краінаў і іхны сувэрэнітэт. На шэрыя задворкі выціснутыя такія “глябальныя” праблемы як палітычная карэктнасьць, ЛГБТ правы, вайна з надвор’ем і ўсякае такое. Прыпыненая роўнасьць, пад пытаньнем братэрства, а лібэртэ (статую) зачынілі на караньцін.




Вірус ня толькі кансэрватар, але і за вольны рынак. Шмат дзе зьніжаныя або цалкам адмененыя падаткі, аказалася, што можна эфэктыўна працаваць з хаты, дзяржава, аказваецца, зусім ня мусіць рэгуляваць кожны аспэкт жыцьця грамадзянаў – у грамадзянаў ёсьць свае галовы... Публічны транспарт – фэ! Усе на свае машыны! Цана саляры – калі ласка, ледзь не бясплатна. Трэба вырашыць пытаньне ў банку, на пошце, у мясцовых органах улады? Дастаткова набраць нумар, напісаць эмэйл, скласьці онлайн заявачку. Хутка і на выбары хадзіць будзе ня трэба. Дзяржава вярнулася да сваёй функцыі – пільнаваньне межаў, рэгуляваньне караньцініньнікаў, лячэньне хворых.

У цэнтры сусьвету апынулася сям’я, жонка, муж і дзеці. Упершыню сядзім дружна ў хаце. Зьявіўся час пагаварыць. Часьцей тэлефануем да бацькоў і дзядоў спытацца, як яны, і каб перадаць, каб не выходзілі з хаты і ці трэба ім нечым дапамагчы. Сумуюць толькі сінглы і чайлдфры. Мусі цяпер зразумелі, што іх падманулі.

Касьцёлы і цэрквы пазакрываліся або абмежавалі сваю дзейнасьць. Людзі ў касьцёлы ня ходзяць. Усе моляцца дома. Нават атэісты. Можа гэта і ёсьць той кароль у церневай кароне?

Праўда, не абыйшлося і бяз пэўных стратаў свабоды. Жорсткі рэжым. Дзе-нідзе адсочваньне маршрутаў зь неабмежаваным доступам да прыватных тэлефонаў. Штрафы за разгульваньне. Ну што ж. У манархіяў свае плюсы і мінусы.

Можна, думаю, ужо спакойна вызначыцца са словамі году. Каронавірус, маска, караньцін... Ну нешта з гэтага набору. З чалавекам году яшчэ невядома. Можа які-небудзь лекар, або мэдсястрычка? Напэўна, ня Грэта Тунбэрг.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

- В. Зайка ..................60
- В. Лапыш ................60
- В. Петрушэнка ...........70

**Усім шчыры дзякуй!**

### Удакладненьне:

Усе сяброўскія складкі, пададзеныя ў мінулым нумары бюлетэня, былі аплочаныя ў памеры **$60**, а ня $30, як было памылкова надрукавана.

Сп. **Аляксандар Салагубік** аплаціў складкі ў памеры **$120.**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах.**

## Абвестка

У сувязі зь небясьпечнай сытуацыяй распаўсюду каронавірусу ў Нью-Ёрку быў адменены сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня” і, выглядае, будзе таксама адменены і наступны сход 11 красавіка.

Гэта адбываецца дзеля агульных мераў засьцярогі, а таксама таго, што ўласьнікі Дому Маракоў часова (да 6 красавіка) скасавалі дамовы на арэнду залі, але, як паказвае разьвіцьцё сытуацыі й колькасьць новых захворваньняў у горадзе Нью-Ёрку, тэрмін забароны можа быць працягнуты мінімум да траўня.

-------------------

Уся інфармацыя пра наступныя сходы і імпрэзы будзе апэратыўна зьмяшчацца на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/?ref=group_header***"

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Вескі й Паведамленьні*:

- А. Занковіч ...............50
- В. Зайка ..................30
- Я. Запруднік .............30
- В. Лапыш .................30
- В. Петрушэнка ............30
- Л. і П. Рыжыя .............30

**Шчыры дзякуй!**

*Паважаны* ***сп. Пётар Пацэнка,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце* ***www.e-krama.com***

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце* ***e-krama.com***